№ 8 (10) ... рада 7 Лістапада 1928 г. Вільня Год II.



# БЕЛАРУСКІ РАДНЫ

Пэрыядычная часопісь па самаурадавым справам нашага краю.

Рэдакцыя і Адміністрацыя: WILNO, Zawalna 6—5. Тэлефон 14-35.

падпісная цана: За 3 месяцы. . . . . 2 зл. 1 нумар. . . . . . . .50 гр.

абвесткі па умове.

## Даходы і выдаткі Самаурадау.

У канцы кожнага году ўкладаюцца бюджэты гмінных самаўрадаў на наступны год. Ужо ў гмінах выстаўлены праэкты бюджэтаў для агульнага азнаямленьня. Дзеля гэтага кожны радны павінен належна падрыхтавацца да працы над укладаньнем і разглядам бюджэту сваей гміны, маючы на ўвазе тую вялізарную паважную ролю, якую ён адыгрывае у жыцьці як цэлае гміны, гэтак сама і кожнага паасобнага яе жыхара.

Самаўрадавыя выдаткі і даходы зьяўляюцца нібыта дадаткам да агульна-дзяржаўных, складаючы паважную іх частку. Пры гэтым цікава падкрэсьліць, што чым вышэй стаіць культурна-гаспадарчы стан данай дзяржавы, тым вышэйшы працэнт удзелу самаўрадаў ў агульна-дзяржаўных выдатках і даходах, якія заўсёды аплачваюцца з карысьцяй для гміны і яе жыхароў.

У нас, у Польшчы, ня ўсе гміны нясуць аднолькавы бюджэтны цiжар. Напрыклад: Верхне-Шлёнскія, Пазнанскія і Паморскія, як больш культурныя, нясуць большыя выдаткі, а гміны Ўсходніх ваяводзтваў—меншыя. Дзеля гэтага ня трэба пужацца вялікшага гміннага бюджэту, які характэрызуе сабою вышыню культурна-гаспадарчай роўні данай вобласьці, але трэба рупіцца толькі аб тым, каб ён адпавядаў патрэбам мяйсцовага жыхарства.

Галоўны Статыстычны Ўрад сабраў даныя аб выдвтках і даходах польскіх гмінных самаўрадаў за 1925 і 1926 бюджэтны год. Паводле гэтых даных, агульныя выдаткі за 1926 г. складалі 185 міл. зл. Агульныя выдаткі дзяржаўнага бюджэту на 1929—30 год прадбачаны ў суме 1,800 мільёнаў зл. Гэткім чынам, комунальныя выдаткі складаюць каля 6 з паловай прац. агульна-дзяржаўных, якія, праўда, аплачваюцца часткава і жыхарамі вясковых гмінаў. У параўнаньні з заходнімі дзяржавамі, процант удзелу нашых гмінаў у агульна-дзяржаўным бюджэце значна меншы. Што-ж датычыць раскладу цiжару самаўрадавых выдаткаў у нас, дык яны гэтак сама не ўва усіх паветах аднолькавыя, што залежыць, як ужо было сказана вышэй, ад культурна-гаспадарчае роўні таго павету. У той час, як праўдзівыя самаўрадавыя выдаткі на кожнага жыхара гміны у Польшчы у сярэднім складалі у 1926 г. 4,63 зл. (звычайныя-ж 3,44 зл.) на аднаго жыхара, у паасобных паветах гэтыя лічбы выглядаюць гэтак: Варшаўскае ваяводзтва — 6,47 (4,61), Пазнанскае ваяводзтва — 8,08 (6,10), Паморскае—8,25 (7,23), Верхні Шлёнск—6,72 (5,54), Наваградзкае — 3,43 (,256), Віленскае — 3,25 137), Кракаўскае 2,32 (245), Львоўскае—2,15 (,177), Станіслаўскае — 1,73 (1,55) і г. д.

У некаторых паветах Пазнанскага і Па-

морскага ваяводзтваў гэтыя лічбы даходзяць да 15—16 зл.

Калі паглядзім на паасобныя выдаткі, дык пабачым, што на першым мейсцы стаяць выдаткі на ўтрыманьне шляхаў—29,290,000 зл., ці 18,5 прац. агульных выдаткаў, затым ідзе ўтрыманьне адміністрацыі — 14,741,000 зл. (14 прац.), на шпіталі 10,9 міл. (10, 5 пр.) і на падтрыманьне ральніцтва, гандлю і прамысловасьці толькі 1,7 міл. (1,6 прац.).

З выдаткаў надзвычайных на будову новых шкалавых дарогаў выдана 10,2 м. (9,7 прац.), будову школаў 1,9 м. зл. (19 пр.). і г. д.

Агульны самаўрадавы прыход у 1926 г. складаў 185,509 зл., з якога на даходы праўдзівыя прыходзіцца 110 міл. і на даходы звычайныя—91,2 міл. зл. Найбольшыя даходы даюць падаткі беспасрэднія — 34 м. (30,9 прац.), дадаткі да падатку дзяржаўнага — 17,269 (14,7 прац.), дадатак да дзяржаўнага грунтовага падатку — 17,575 (16 прац.), спэцыяльныя складкі — 14,751 (13,42), падаткі пасрэднія—12,142 (12,5 прац.).

Цiжар на аднаго жыхара самаўрадавых падаткаў усіх відаў у Польшчы ў сярэднім складае 2,99 зл. Найбольшы цiжар падаткаў нясуць ваяводзтвы: Пазнанскае — 5,35 зл. на аднаго жыхара, Паморскае ваяводзтва—5,29 зл., В. Шлёнскае—5,27 зл., Віленскае — 2,67, Навагрудзкае — 2,26, Станіслаўскае — 1,50 і Львоўскае—1,49 зл.

У 1927—28 г. камунальныя як даходы, гэтак і выдаткі значна павялічыліся, як павялічыўся і агульна-дзяржаўны бюджэт. Але пры разглядзе бюджэту на новы год ня трэба займацца яго уразаньнем, а толькі зьвярнуць увагу на правідловы расклад падаткаў і рацыянальнае выдаткаваньне камунальных сумаў. Пры рацыянальным выкарыстаньні камунальных сумаў, адпаведна ўзрастае карысьць для кожнага жыхара гміны. Напрыклад, выдаткі на адбудову краю даюць заработак мяйсцоваму жыхарству, выдаткі на ральніцтва і каапэрацыю павялічваюць матэр'яльны дабрабыт краю і г. д.

Толькі адзін від выдаткаў вымагае зьмяншэньня,—на адміністрацыю. Наш край, як бачым, займае сярэдняе мейсца сярод іншых частак Польшчы у адносінах камунальных выдаткаў. У кожным разе мы павінны браць прыклад пры ўкладаньні камунальнага бюджэту не са Станіслаўскага ці Львоўскага ваяводзтваў, а з больш культурных — Пазнанскага, Шлёнскага і Паморскага.

# Аб некаторых абавязках гмінных радных.

У законе аб гмінных (валасных) самаўрадах (Dz. U z. Zarz. Ziem Wschod. N 21 з дня 16 кастрыч. 1919 г. поз. 215) досыць падрабязна акрэсьлены межы дзеяльнасьці гміны і яе пастанаўляючага і кантралюючага воргану — гміннай рады.

Дзеяльнасьць гміны і гміннай рады абыймае ўсе галіны жыцьця гміны: будову і утрымліваньне гмінных дарог, мастоў і пляцоў; апеку над жабракамі і беднымі, утварэньне і утрымліваньне шпіталяў і санітарных установаў; апрavізацыю (дастарчаньне таннай жыўнасьці) бяднейшых жыхароў; разьвіцьцё мяйсцовага земляробства, гандлю, прамысловасьці і рамёслаў, а такжа каапэрацыі; грамадзкую асьвету, закладаньне і утрымліваньне, школаў бібліятэкаў, народных (людовых) дамоў, устанаўленьне падаткаў і платаў на карысьць гміны; зьмену натуральных павіннасьцяў на грашовыя і наадварот; кантроль над дзейнасьцю ўраду гміны і яго рахунковасьцю і г. д. Карацей кажучы, усё, чым жыве жыхарства гміны, як грамадзянства, пэўная сацыяльная адзінка.

У-ва ўсіх вышэй-пералічаных справах гмінная рада адыгрывае галоўную ролю. Ёсьць нават і такія справы, каторыя зусім залежаць ад гміннай рады і вырашэньне якіх нават не ў магчымасьці вышэйшай уладзе. Праўда, калі вышэйшая ўлада захоча вырашыць што-колечы ў галіне гміннага жыцьця — дык знойдзе спосабы, але гэта можа пайсьці ў разрэз з законам, у вабароне якога стаіць яна, а можа, і канстытуцыі. Што-ж датычыць войта — дык гэта — асоба, акая ў самаўрадавых справах зусім залежна ад гміннае рады. Ён зьяўляецца прадстаўніком выканаўчае ўлады гміннай рады.

Для вырашэньня гмінных справаў сябры гміннае рады зьбіраюцца на паседжаньні, якія адбываюцца або пэрыядычна, у вызначаных загадзя тэрмінах, або па меры патрэбы, напр., у выпадках якой-колечы пільнай і наглай справы, вырашыць самастойна якую войт ня мае права. Кожнаму раднаму гміны, у такіх выпадках ўрад загадзя пасылае паведамленьне аб тэрміне, маючага адбыцца паседжаньня гміннае рады, з падрабязным пералічэньнем тых справаў, якія маюць разглядацца на паседжаньні.

Дык вось, гэтае паведамленьне пасылаецца не дзеля таго, каб толькі паведаміць раднага, а дзеля таго, каб радны прырыхтаваўся да тых справаў, якія будуць

разглядацца на паседжаньні. Маральнаю і грамадзкаю павіннасьцю раднага зьяўляецца ня толькі самому добра разважыць гэтыя справы, але і падзяліцца думкамі аб іх з больш сьведамымі асобамі сярод сваіх выбаршчыкаў. Радны павінен мець пэўнае, акрэсьленае ўяўленьне аб тым, як эаглядаецца на іх жыхарства, у якім напрамку яно жадала-б вырашэньня гэтых справаў. Радны павінен быць як-бы напоўнены думкамі і разважаньнямі больш сьведамага жыхарства аб гэтых справах, каб сапраўды на паседжаньні быць прадстаўніком тых, хто выбраў яго, каб сапраўды сваімі вуснамі гаварыць тое, чаго чакаюць і жадаюць у гэтай справе яго выбаршчыкі. Прыгатаваны такім чынам да вырашэньня справаў, радны можа спакойна ісьці на паседжаньне з думкаю, што ён в е д а е, як павінны быць вырашаны гэтыя справы з карысьцю і справядліва для яго выбаршчыкаў. Такі радны можа са спакойным сумленьнем галасаваць на паседжаньні за тое, ці іншае вырашэньне справаў.

Вось, як мне здаецца, толькі з гэтаю мэтаю пасылаюцца паведамленьні. Шкада толькі, што гмінныя ўрады вельмі нядбалыя ў гэтым напрамку, бо часта пасылаюць паведамленьні напярэдадні паседжаньня, як-бы хочучы, каб вырашэньні гэтых справаў ня выходзіла за пакой паседжаньня. Такое зьявішча самі радныя павінны старацца адхіліць, на тое-ж яны — прадстаўнікі жыхарства, якога і датычаць усе гмінныя справы. Па маёй думцы, радныя павінны ўвясьці рашучую пастанову, каб паведамленьні гміннае рады даручаліся хаця-б за тыдзень да паседжаньня.

Аб пільных і наглых справах на гэты раз прамаўчу, бо разгляд і вырашэньне іх вядзецца хаотычна і сапраўды „нагла“.

Тымі справамі, аб якіх гаварылася спачатку, асабліва-ж вырашэньнямі іх гміннаю радаю, вельмі цікавяцца жыхары—выбаршчыкі. І ня дзіва, бо яны датычаць іх дабрабыту, бо з іх зьбіраюцца матэр'яльныя сродкі для зьдзейсьненьня тых ці іншых. пастановаў. А ўсё тое, што зьвязана з матэр'яльным бокам, жыхарства блізка прыймае да сэрца...

Звычайна пастановы гміннай рады запісваюцца ў пратакол паседжаньня, які падпісваюць усе радныя. Падпісаўшы пратакол радныя йдуць дамоў, у кругаварот тых справаў, якія яны лічаць сваімі ўласнымі, і назаўсёды забываюцца яшчэ аб адным сваім грамадзкім абавязку. Абавязак-жа гэты ня менш важны, як той, які накладаецца на іх даручаным паведамленьнем аб паседжаньні гміннае рады.

Я маю на думцы тое, што радныя павінны перад сваімі выбаршчыкамі д а в а ц ь с п р а в а з д а ч ы аб тым, якія справы разглядала гмінная рада і як іх вырашыла. Радныя абавязаны ў кожнай вёсцы таго раёну, ад якога яны выбраны, склікаць грамадзян на спэцыяльныя сходы (ведама, з дазволу адміністрацыйных уладаў) і рабіць гэтыя справаздачы. Такім чынам, радныя ня толькі будуць падтрымліваць жывую лучнасьць са сваімі выбаршчыкамі, але і даведаюцца аб тым, якое аднашаньне будзе ў выбаршчыкаў да той, ці іншай справы. Радныя вачавідкі ўбачаць, ці сапраўды яны адбіваюць у гміннай радзе думкі і настроі сваіх выбаршчыкаў. Пажадана, каб гэткія сходы-справаздачы рабіліся пасьля кожнага паседжаньня, у найгоршым выпадку — некалькі разоў на год.

Праўда, гэта досыць такі трудная справа, бо радным трэба адрывацца ад сваіх справаў, ды яшчэ клапаціцца аб дазволах, траціць дарагі час і г. д. Але, калі радны сапраўды хоча быць радным і ня страціць у вачох сваіх выбаршчыкаў павагі да гэтага становішча — ён знойдзе час і магчымасьць, патрэбна толькі ахвота і сьвядомасьць.

Трэба ўсё-ж такі згадзіцца з тым, што пасьля кожнага паседжаньня радныя ня змогуць рабіць сходы для справаздачаў, дык, каб не парваць лучнасьці са сваімі выбаршчыкамі, яны павінны п р ы н я ц ь і з ь д з е й с ь н і ц ь на чым-бы то ні стала спэцыяльную ў гэтым напрамку п а с т а н о в у. А пастанова гэтая вельмі простая: гмінны ўрад п а в і н е н р а с с ы л а ц ь у кожную вёску зацьверджаныя старастаю пратаколы паседжаньняў гміннае рады. Зусім так, як гэта робіцца з рознымі адміністрацыйнымі распараджэньнямі. Гэтыя пратаколы павінны чытацца на сходах самымі раднымі, а калі ў якіх вёсках іх няма, дык солтысамі.

З боку гміннага ўраду, трэба спадзявацца, радныя ў гэтай справе спаткаюць пэўныя перашкоды, галоўнымі пунктамі якіх зьявяцца: непрадбачаньне гэткай пастановы вышэйшаю ўладаю і немагчымасьць выканаць яе тэхнічна.

Што да першага пункту — непрадугледжаньня вышэйшаю ўладаю—можна сказаць, што шмат чаго не прадугледжана ўладаю ў самаўрадавых справах, і дзеля гэтага дана ініцыятыва радным. У самым-жа факце прыняцьця таковай пастановы і зьдзейсьненьня яе нічога проціўзаконнага няма, тым больш, што гэтая справа служыла-б узгадаваньню жыхарства на грунце сапраўднага самаўраду, а не самаўраду тых 12 асобаў, якіх яна выбрала.

Што да другога пункту—немагчымасьці выканаць яе тэхнічна — дык гэта простае нежаданьне гміннага ўраду пайсьці на сустрэчу карыснай зачаўцы гміннай рады. Трэба ведаць, што напісаньне і адбіцьцё пратаколу на гэктаграфе зьвязаны зусім з нязначным часам і выдаткамі гміннай канцэлярыі. Сьмела скажу, што ў гмінных канцэлярыях больш ідзе часу на марнаваньне гэтага часу пісарамі і на марнаваньне паперы на розныя „ўдасканаленьні“ почыркаў і розныя непатрэбныя пісаніны у родзе пісьмаў.

Дарэчы тутака напомніць, што закон аб гмінных самаўрадах дае гміннай радзе права выдаваць мяйсцовыя абавязуючыя пастановы

і правілы ў справах, якія падлягаюць яе вырашэньню.

Гаворачы наагул, гмінныя радныя павінны:

1) яшчэ да паседжаньня уважліва абдумываць справы дзеннага парадку, радзячыся аб іх з больш сьвядомымі выбаршчыкамі;

2) даваць справаздачы выбаршчыкам (грамадзянам) аб прабегу паседжаньняў і прынятых гміннаю радаю пастановах

і 3) прыняць пастанову аб тым, каб пратаколы паседжаньняў гміннае рады рассылаліся па вёсках.

*Радны.*

# Самаурадавая хроніка.

— Паседжаньне Акружнай Земскай Камісіі ў Вільні. Бліжэйшае паседжаньне Акружной Земскай Камісіі ў Вільні адбудзецца 15—16 лістапада.

— Зьезд войтаў і пісароў Віленска-Троцкага павету. 5 лістапада адбыўся у павятовым выдзяле зьезд войтаў і пісароў Віленска-Троцкага павету. Разглядаўся цэлы рад бягучых актуальных справаў.

— Зьезд старастаў Наваградзкага ваяводзтва. 31 кастрычніка адбыўся ў Наваградку пад кіраўніцтвам Наваградзкага ваяводы п. Бэчковіча зьезд старастаў Наваградзкага ваяводзтва з удзелам пракурора апэляцыйнага і акружнага суда. На канфэрэнцыі абгаварываўся рад пытаньняў гаспадарчага характару. Між іншым, усебакова абгаварывалася пытаньне аб будове мэханічных пекарняў у гарадох Наваградзкага ваяводзтва. Гэтае пытаньне ў Слоніме будзе вырашана у бліжэйшыя дні, у Баранавічах залежыць ад удзелу ваенных уладаў, а ў Лідзе ўжо будуецца. У паветах, пацярпеўшых ад няўраджаю, пастаноўлена прыступіць да стварэньня збожжавых рэзэрваў.

— Гмінныя бюджэты Віленска-Троцкага павету. Ад 1 лістапада у гмінных урадах Віленска-Троцкага павету выстаўлены на працяг 7 дзён праэкт бюджэту на 1921—30 г. для агульнага азнаямленьня з камунальнымі падаткамі і падачы запярэчаньняў і паправак. Паседжаньні бюджэтных гмінных радаў пачнуцца з 3 сьнежня і заканчацца да 10 сьнежня г. г.

— Грашавая дапамога для Вільні і Віленшчыны. 30 кастрычніка вярнуўся з Варшавы ваявода пан Рачкевіч, прыймаўшы ўдзел у канфэрэнцыі прэм'ера Бартэля і Міністраў: Унутраных Справаў, Скарбу, Зямельных рэформ і грамадзкіх работ. На гэтай канфэрэнцыі абгарарываліся пытаньні аб гаспадарчай сытуацыі, якая вытварылася на Віленшчыне у зьвязку з вайною і неўраджаем. У рэзультаце канфэрэнцыі пастаноўлена: 1) асыгнаваць 750,000 зл. на адбудову гаспадарак, зьнішчаных у часе вайны, 2) пралажыць сашу між Вільняю і Відзы з мэтаю даць працу мяйсцоваму насельніцтву; 3) прызнаць Віленскаму Магістрату 1 міл. зл. на каналізацыю і брук вуліц. Адначасова было парушана пытаньне аб падаткавых палёгках для жыхароў Віленшчыны. Дзеля гэтага Міністр Скарбу вышле свайго дэлегата, які па высьвятленьні сытуацыі на мейсцы і узгадненьні сваіх унёскаў з п. Ваяводаю, прадставіць іх Міністру Скарбу.

— Пазыкі на пашу. З мэтаю распаўсюджаньня і выкарыстаньня пашы, якая мае ўплыў на павялічэньне малачарства, Дзяржаўны Рольны Банк будзе выдаваць пазыкі на атрубы, макуху усім зьвяртаючымся рольнікам, незалежна ад абшару грунту.

Пазыкі будуць выдавацца праз Ральніча-Гандлёвыя Каапэратывы, пазычковыя, малочныя, павятовыя касы ашчаднасьці і рольніча-гандлёвыя прадпрыёмствы.

— Нішчэньне барбарысу (кісьляцу). Загадам Міністэрства Ральніцтва ад 31 ліпня 1928 г. (Дз. Уст. N 79 § 697) на кладаецца абавязак нішчэньня барбарысу (кісьляцу) да 1 траўня 1929 г. Не датычыцьгэта звычайнага барбарысу у садох і ўнутры лясоў у вадлегласьці ня менш 100 мэтраў ад скраю лесу. Абавязак нішчэньня барбарысу ляжыць на асобах якія маюць грунты, паросшыя барбарысам ці заведываюць гэткімі грунтамі. Калі на гэтых грунтах будзе знаходзіцца пасьля 1 траўня 1929 г. барбарыс, адносныя асобы будуць карацца. Беспасрэдні дагляд за выкананьнем абавязкаў нішчэньня барбарысу ўскладаецца на гмінныя рады.

— Будова новай чыгункі Слонім-Навагрaдак-Маладэчна. Справа будовы чыгункі Слонім-Навагрaдак-Маладэчна затрымалася на мертвым пункце. Наваградзкі Ваявода п. Бэчковіч у часе свайго пабыту ў Варшаве парушыў гэтае пытаньне перад Міністрам Камунікацыі, які прыхільна аднёсься да гэтае справы і заявіў, што у бюджэце на 1929—30 год устаўлена сума паў міл. зл. на пачатковыя работы, зьвязаныя з будоваю гэтай лініі.

Міністар Камунікацыі заявіў, што гэткая нязначная сума вызначана дзеля таго, што заканчэньне будовы вялікай чугуначнай магістралі на захадзе Дзяржавы не пазваляе асыгнаваць большай сумы на гэтую мэту. Міністар выразіў надзею, што як самаўрады, гэтак і грамадзкія арганізацыі, якія найболей зацікаўлены ў хутчэйшай будове гэтай чыгункі, пойдуць на спатканьне з адпаведнымі ахвярамі.

Дырэкцыя чыгункі ўжо распачала памеры абшараў, праз якія будзе праходзіць новая лінія, бо папярэднія памеры аказаліся нездавальняючымі.

— Памешканьні для вучыцялёў. У зьвязку з тым, што некаторыя гміны адмовіліся даваць бясплатныя памешканьні для вучыцялёў пачатковых школаў, узьнікла шмат судовых справаў. І вось, Вышэйшы Суд у сваёй пастанове ад 20 красавіка 1928 г. N 3 Рв. 656—28 сцьвердзіў, што гміны абавязаны даваць памешканьні для вучыцялёў, але толькі не бясплатна. Вышэйшы Суд выясьніў, што § 1 закону ад 17 лютага 1922 г. аб будове пачатковых школаў, на падставе якога Міністэрства Асьветы высоўвывала свае жаданьні выдаваць вучыцялём бясплатныя памешканьні, кладзе на гміны абавязак толькі дастаўляць вучыцялём памешканьні, але ня мае ў сабе пастановы адносна бясплатнае дастаўкі.

— Шарварк ня можа быць зусім заменены аплатамі. Часта ўзьнікаюць пытаньні, ці можа быць шарварк у натуры заменены грашовымі аплатамі. На гэтыя пытаньні дало падрабязныя высьвятленьні Міністэрства Унутраных Справаў у сваім цыркуляры ад 18 верасьня 1928 г. N 171. У гэтым цыркуляры Міністэрства стаіць на тым грунце, што на падставе лёгічнага тлумачэньня § 31 у зьвязку з арт. 29, 30, 32 і 33 шляхавага закону ад 10. XII. 1920 году (Дз. Уст. ад 1921 г. N 6 § 32) належыць дайсьці да ўнёску, што § 31 не дае гмінам права замены дарожных падаткаў у натуры грашовымі аплатамі на агульных падставах. Гэта дапускаецца толькі ў тых выпадках, калі натуральныя павіннасьці кім-небудзь ня могуць быць выкананы.

За гэткае тлумачэньне натуральных дарожных павіннасьцяў гавора і іх мэтнасьць, бо ў гмінах, асабліва вясковых, ёсьць шмат работніцкай сілы і насельніцтва ахватней нясе натуральныя абавязкі, чым грашовыя, дзеля чаго аплаты дарожных ў натуры пры добрай арганізацыі могуць значна уплынуць на палепшаньне стану гмінных дарог.

Зусім зразумела, што меставыя гміны, дзе ральнічых работнікаў значна менш, могуць дарожныя натуральныя павіннасьці замяніць аплатамі, аднак-жа і ў гэтых гмінах павінна быць дана магчымасьць выконваць дарожныя павіннасьці ў натуры тым, хто гэтую форму павіннасьцяў прызнае для сябе лепшаю, чым грашовыя павіннасьці.

У зьвязку з гэтым Міністэрства прапануе ўрадам вясковых і меставых гмінаў зьвярнуць увагу на пастанову § 44 загаду Прэзыдэнта Рэспублікі ад 22 сакавіка 1928 г., паводле якога, „калі абавязаны нясьці павіннасьці ў натуры ня выконвае гэтых абавязкаў, можна прымусова скарыстаць цяглавымі прыладамі і жывёлаю. Выкліканыя гэтым выдаткі будуць сьцягнуты ад даўжніка, як грашовы падатак...“

На падставе гэтага загаду гміны могуць, напрыклад, да працы на дарогах каня з возам ад асобаў, ня выканаўшых дарожных павіннасьцяў, наймаць работнікаў на іх рахунак і г. д.

— Касыны афіцэрскія ня плацяць падатку за памешканьні. Цыркулярам ад 11 верасьня 1928 г. Міністэрства Унутраных справаў выясьніла, што афіцэрскія касыны звальняюцца ад падатку за памешканьні на падставе § 3 закону ад 2 жніўня 1926 г. (Дз. У. К. П. N 94 § 550), як службовая інстытуцыя, тым балей, што памешканьні для вышэйпамянутых касынаў дастаўляюцца скарбам Дзяржавы бясплатна.

— З ГАВЯЗЬНЯНСКАЙ ГМІНЫ, НЯСЬВІСКАГА ПАВ. Выбары да новае Гміннае Рады адбыліся ў дні 18—6—1927 г. Пасьля гэтага былі створаны наступныя гмінныя камісіі: рэвізыйная, рольная, прасьветная, дарожная, гаспадарча-тэхнічная, грамадзкае апекі і санітарная. Камісіі гэтыя у працягу году адбылі паседжаньні: рэвізыйная — 4, рольная — 2, прасьветная — 2, дарожная — 3, гаспадарча-тэхнічная — 1, грамадзкае апекі—1, санітарная — 2.

За год паступіла 5,627 справаў, з якіх вырашана — 5,361. Акрамя таго ,выдана 175 розных пасьведчаньняў і 215 пасьведчаньняў польскага грамадзянства.

Бюджэт прадбачыў у пазыцыі прыходу 50,174 зл. 60 гр. Атрымана было 45,787 зл. 20 гр. Да 1. IV—28 г. было недабраных падаткаў на суму 6,431 зл. 90 гр. Выкананьне бюджэту дало надвыжку 15,153 зл. 39 гр.

Падаткі пастyпалі да гміннае рады ненармальна, бо значная частка платнікаў не плаціла падаткаў без спэцыяльнага напамінаньня і націску, дзеля чагс гмінная рада змушана была застасаваць да гэтых асобаў прымусовыя (экзэкуцыйныя) сродкі. Хаця у шмат каго была апісана нярухомасьць, аднак-жа да ліцытацыі не дайшло. На тэрэне гміны было 29 школаў, для якіх гміна наймала памешканьні і выдавала па 10 мэтраў дроў. Дзеля таго, што ня было уласнае коннае пошты, урад гміны карыстаўся нанятаю поштаю, на што было выплачана 3179 зл. 70 гр.

У 1927 г. выкананы наступны, работы.

Насыпана жвіру, упарадкаваны шлях і акопана рвамі — 10, 75 мэтраў.

Выкапана рвоў — 19,340 м. Папраўлены адзін дзеравяны мост пры ф. Хамяве. Заложаны 4 пропускі з бэтонных труб.

Выкарыстана работнікаў: 2,994 пешых і 1170 падводаў. Выдана гатоўкаю—2658 зл. 50 гр. Агульная вартасьць звычайных работаў складае 14,496 зл. 50 г.

З надзвычайных работ: выбрукавана дарог 670 мэтраў пры Ганусоўцах. Выбудаваны 2 дзеравяныя масты. Выкарыстана пешых рабочых 314, фурманак—533, выплачана гатоўкаю 3,080 зл. 91 г. Агульная вартасьць надзвычайных работ складае 10,354 зл. 31 гр.

У 1927 г. вызначаны шарварк на суму 31,771 зл. 88 гр. Адроблена шарварку натураю — на суму 15,131 зл., выплачана гатоўкаю—8,716 зл. 76 г., выплачана матэр'ялам—

398 зл. 40 гр. Задоўжанасьць шарварку на І. ІУ—28 г. складала — 3933 зл. 71 гр.

Да Гавязьнянскай гміны далучана частка Масуньскай, якая была скасавана 1 кастрычніка 1927 г. Абшар гміны павялічыўся на 25, 241 гэктараў і лічба насельніцтва—на 10,500 чалавек.

## Самаўрадавы параднік.

Запытаньне: Ці войт гміны, сьцягваючы падатак ад нерухомасьці з маёнтку, які ў частцы ўжо распарцэляваны, але яшчэ па наказу платнічаму на ўвесь маёнтак агулам, павінен спаганяць гэты падатак з усяго маёнтку, г. ё. з уласьніка гэтага маёнтку, ці асобна спаганяць з уласьніка, а асобна з тых, якія атрымалі парцэлі?

Адказ: Падставай для спаганяньня падаткаў ёсьць наказ платнічы і толькі паводле яго павінны быць спаганяны падаткі. У дадзеным выпадку, з увагі на тое, што наказ выпісаны на ўвесь маёнтак у цэлым, падатак павінен быць спагнаны з уласьніка ўсяго маёнтку, а потым хай ён ужо сам разлічваецца з новымі ўласьнікамі парцэляў. З паасобных гэтых уласьнікаў спаганяць няма падставы і нельга.

Запытаньне: Хто адпавядае ў такім выпадку, калі гміна выдае пасьведчаньне, абапёртае на паказаньнях сьведкаў, калі акажацца, што сьведкі паказалі няпраўду і гэткім чынам пасьведчаньне акажацца фальшывым і якім чынам можна і трэба ўняважніць гэтае пасьведчаньне?

Адказ: Калі ўрадовец, які выдаў пасьведчаньне ня ведаў, што сьведкі паказваюць няпраўду — адказваюць толькі сьведкі на падставе п. 1 арт. 445 К. К.; у выпадку-ж, калі ўрадовец ведаў, што сьведкі паказваюць няпраўду, або калі ён прыймаў іншым спосабам удзел у выданьні заведама фальшывага пасьведчаньня — адказвае і ўрадовец з арт. 677, 669—970 К. К.

Запытаньне: Ці сэкрэтар (пісар) воласьці мае абавязак езьдзіць разам з войтам для прымусовага спаганяньня падатку?

Адказ: Закон ускладае абавязак спаганяньня падаткаў на войта — і солтысаў, аднак войт, як начальнік воласьці і працаўнікоў валаснога ўраду, можа карыстацца з дапамогі пісара і ў гэтым выпадку.

Запытаньне: Ці войт мае права трэбаваць, каб валасная стойка прывозіла яго з дому да валаснога ўраду і адвозіла стуль дамоў?

Адказ: Мае, бо гэтага патрабуе інтэрас службы.

Запытаньне: Ці войт павінен быць у валасным урадзе кожны дзень, ці мае права бываць там 2—3 разы ў тыдзень толькі?

Адказ: Войт можа і павінен бываць у валасным урадзе так часта, як гэтага вымагуаюць справы. Абавязку бываць там абавязкава што дня—няма. Але, ня бываючы кожны дзень, ён павінен вызначаць дні, калі бывае і абвесьціць гэта ўсім, вывешваючы абвестку аб гэтым на відным мейсцы валаснога ўраду.

Запытаньне: Ці сябра валаснай рады траціць свой мандат, калі больш паўгода таму пераехаў жыць у межы другой гміны і асталяваўся там настала?

Адказ: Траціць, бо закон вымагае каб сябра гміннай рады быў сябрам валаснай грамады і, паміж іншым, пражываў стала ў гміне ня менш 3 месяцаў.

Запытаньне: Ёсьць ці не законная падстава трэбаваць і змушаць уласьнікаў палёў лётных пяскоў да пасадкі ці пасеву на гэтых палёх лясоў.

Адказ: Ані ў разпараджэньні Прэз. Рэспублікі з дня 24 VI. 1927. г. (Дз. У. 57. паз. 204.) ані ў іншых спэцыяльных законах няма правілаў, якія давалі-б падставу да прымушаньня ўласьнікаў гэтых пяскоў да пасадкі ці пасеваў на іх лесу.

# Важны закон.

У выніку апошняй вайны і прымусовай эвакуацыі значнай часткі насельніцтва нашага краю у глыб Расеі — шмат сем'яў вымерла, загінула недзе, або—асталяваліся на новых мясцох і ня хочуць вяртацца дамоў. Гэткім чынам засталося тутака шмат гэтак званых „пакіненых" нярухомых маемасьцяў, ня маючых дагэтуль законных гаспадароў. І гэтыя гаспадаркі у большай частцы былі ўзяты, „на учот" і адданы у карыстаньне г. зв. куратарам, якія вызначаліся Судом. Трываць гэтакі спосаб карыстаньня нярухомасьцяй бясконца, ведама-ж, ня можа. І вось у гэтым годзе, а ласьне 7 лютага г. г. выданы закон—распараджэньне п. Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай, які мае на мэце зьліквідаваньне „пакіненых" нярухомасьцяў.

Дзеля таго, што пытаньне аб гэтых нярухомасьцях і іх лёсе датычыць інтарэсаў шмат каго з тых, якія з тых ці іншых прычынаў маюць нейкія правы на гаспадаркі якіх гаспадары не вярнуліся з бежанства (крэўныя), альбо хоць-бы толькі прэтэнзіі да гэтых гаспадарак, (даўгі, закладныя, запрадажныя)—вышэйпамянёны закон падаем тутака поўнасьцяй, падкрэсьліваючы тое, што асабліва трэба мець на ўвазе, каб захаваць свае правы.

Вось гэты закон:

Распараджэньне Прэзыдэнта Рэчыпаспа-

літай з д. 7 лютага 1928 г. аб прымусовым выкупе на мэты зямельнай рэформы зямельных нярухомасьцяў асобаў адсутных.

На падставе ст. 14 п. 6 Констытуцыі і Закону з дня 1 жніўня 1926 г. аб упаўнаважненьні Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай на выдаваньне распараджэньняў, маючых моц Закону (Дз. У.ж Р. П. N 78—1926 г. паз. 443),—пастанаўляю наступнае:

§ 1

Зямельныя нярухомасьці, над якімі, як належачымі да адсутных асобаў, вызначаны былі судовыя куратэлі, кіраўніцтва ад імя уладаў адміністрацыйных або самаўрадавых, або — прымусовае ўрадавае кіраўніцтва, калі адсутнасьць ўласьніка пачалася перад днём 1 студня 1921 г. і калі на месцы няма нікога з ліку насьледнікаў па закону: мужыка альбо жонкі, патомства іхняга, бацькоў, дзядоў, дядзькоў (родных), братоў, сёстраў ці іх патомства, ці асобы гэтыя на выклік іх не адклікнуліся ў працягу 30 дзён, — падлягаюць прымусоваму выкупу у казну на мэты, паказаныя ў ст. 1 Закону з дн. 18 сьнежня 1925 г. аб выкананьні зямельнай рэформы (Дз. Уж. Р. П. з г. 1926 N 1 паз. 1). у цэласьці, не выключаючы лясоў, водаў, гаспадарскіх будынкаў, інвэнтару жывога і мёртвага, ураджаю, а таксама і пасеваў.

1) Азначаны у ч. I выклік павінен быць зроблены праз абвестку спосабам, які устаноўлены мяйсцовым звычаем у гміне, у мясцох якой знаходзіцца гэтая нярухомасьць, а, апрача таго — праз прыбіцьцё абвесткі на жылых будынках, калі такія ёсьць на гэтай нярухомасьці, а так-жа праз трохразовую публікацыю ў ўрадавай Ваяводзкай газэце і „Монітожэ Польскім“ у тэрмінах ня менш месячных адно ад другога. Пачатак азначанага у ч. I тэрміну 30 дзён, лічыцца ад дня апошняе публікацыі.

§ 2

Прымусовы выкуп наступіць у парадку, прадбачаным у ст. 22 і 23 закону з дн. 28 сьнежня 1925 г. аб выкананьні зямельнай рэфо: мы (гл. ніжэй, рэд.).

§ 3

Адсутныя асобы, або іх насьледнікі, у выпадку іх заявы пасьля дакананьня прымусовага выкупу, маюць права атрымаць за прымусовавыкупленыя землі заплату паводле і спосабам, якія паказаны у правілах разьдзелу IV закону з д. 28 XII 25 г. аб выкананьні зямельнай рэформы (гл. ніжэй, рэд.).

§ 4

Выкананьне гэтага распараджэньня даручаецца Міністру зямельных рэформаў ў паразуменьні з Мініст. Земляробства, Скарбу і Юстыцыі.

§ 5.

1) Гэтае распараджэньне абавязвае на ўсіх абшарах Польскай Рэспублікі з выняткам Горнашлёнскай часткі Шлёнскага ваяводзтва.

2) Гэтае распараджэньне ўваходзіць у жыцьцё ад дня абвешчаньня. Адначасна трацяць абавязуючую моц спрэчныя з ім пастановы закону аб выкананьні зямельнай рэформы, асабліва п. е. ч I ст. 3 гэтага закону.

Вынятк з Закону ад дня 28 сьнежня 1925 г. аб выкананьні зямельнай рэформы, ст. ст. гэтага Закону, памянёных у вышэйпададзеным распараджэнньні,

§ 1 (да ст. I распараджэньн)

1) Зямельны лад Рэчыпаспалітай Польскай будзе абапёрты на сільных, здаровых і здольных да выдатнай прадукцыі гаспадарках рознага тыпу і вялічыні, якія будуць прыватнай уласнасьцю іх уласьнікаў.

о) Правядзеньне новага ладу ахопіць:

а) стварэньне новых самастойных зямельных гаспадарак;

б) павялічэньне істнуючых карлаватых (малазямельных, рэд.) гаспадарак да разьмераў самастойных гаспадарскіх адзінак;

в) ства эньне малых (дробных) гаспадарскіх адзінак для прадукцыі гародніцка-садовай;

г) стварэньне калёніяў і гародаў работніцкіх, урадоўчых і г. д. каля местаў і прамысловых цэнтраў і

д) забясьпечаньне адпаведных абшараў для гаспадарчых школаў і цэнтраў гародніцкай і земляробскай культуры.

# Навука і тэхніка.

## ВАЕННЫЯ КАРАБЛІ БЕЗ АБСЛУГІ.

У Нямеччыне будуецца ваенны карабель, які кіруецца з сушы радыёвымі хвалямі. Будова гэтага карабля, які мае назоў „Zaehring,“ ужо выканана. Хаця трэба адцяміць, што першаю дзяржаваю, выбудаваўшаю гэтага роду параход, былі Злучаныя Штаты і затым Англія. Пабудкаю да гэтага былі досьледы э марскіх бітваў у мінуўшую вайну.

Ласьне, артылярыстыя ваенных параходаў прыйшлі да перакананьня, што для лепшага навучаньня абслугі параходных гарматаў ня можна карыстацца плывучымі мішэнямі, якія павольна плаваюць і дзеля гэтага ня могуць прадстаўляць запраўднае сытуацыі, з якою прыходзіцца мець дачыненьне ў часе запраўднае бітвы. Дзеля гэтага зьявілася патрэба пабудаваць гэткую рухомую мішэнь, якая-б зусім напамінала ваенны карабель у часе абстрэлу яго артылерыяй. І высілкі ў гэтым кірунку прывялі да будовы „параходу-прывіду.“

Амэрыка вызначыла для гэтае мэты стары бранянасец „Ява“, які пры помачы аўтаматычнага катла мог доўгі час плаваць

без абслугі, кіруемы з берагу радыёвымі хвалямі. Карабель гэты даў вялікую карысьць амэрыканскаму флёту. Дзеля гэтага для гэтае мэты вызначаны быў другі стары дрэдноўт „North Dakota."

Гэтак сама і Англія ужо даўно карыстаецца як рухомаю мішэньню — старым браняносцам „Agamemnon". Гэты параход без абслугі можа плаваць са скорасьцю 15 міль у гадзіну, у той час як сярэдняя скорасьць плаваньня звычайных ваенных караблёў 20 міль. А каб ён не затануў пры абстрэле яго з другіх караблёў, ён напоўнены пробкамі. Затым, гэты карабель быў заменены старым дрэдноўтам „Centunon" (27,000 тон), а апошні ў мінуўшым годзе крэйсэрам „Роднеў."

Не адстала ад гэтага і Нямеччына. У 1926 г. нямецкі Рэйстаг вызначыў для гэтае мэты крэйсэр „Zartwing" (22,800 т.), які быў спэцыяльна перабудованы унутры, каб не затануць пры абстрэле з другіх караблёў. Ён кіруецца з берагу радыёвымі хвалямі пры помачы вельмі завілага мэханізму. Пры помачы кароткіх радыёвых хваляў прыводзяцца у рух і затрымліваюцца паравыя машыны, руль, асьвятляюцца рэфлектары іг .д.

Францыя мае некалькі гэткіх маторных лодак, якія кіруюцца хвалямі радыё.

## ШТО ТРЭБА АБАВЯЗКАВА ЗРАБІЦЬ УВОСЕНЬ?

Гаспадар кончыў збор збожжжа. Выкапана і зьвезена бульба, агародніна, пасеены азіміны жыта і пшаніцы. Здавалася-бы, што ўжо ўсё зроблена ў полі на восень. Аднак-жа ёсьць яшчэ вельмі паважная і пільная праца ў полі, якой ніяк ня можна адкладаць да вясны. Мы маем на ўвазе ворку глебы пад авёс, бульбу, буракі і г. д.

Праўда, можна узгараць і ўвясну. Але вясновая ворка ніколі не заменіць васеньняй. Хто арэ ўвосень і ня мае за што купіць штучных гнаёў на вясну, ляпей зробіць, чым той, хто адмовіцца ад васеньняй воркі і купіць на вясну гнаёў. Асабліва гэтага патрабуе авёс. Гтак сама і бульба значна ляпей расьце ў глебе разрыхленай, мягкай, чым у сьвежай, няворанай скібе.

Загараўшы ўвосень, трэба пакінуць ральлю незабаранаванаю, каб сам мароз разрыхліў скібу, а сьнег яго падгнаіў. Можа пакажацца дзіўным тое, што сьнег угноіць глебу. Аднак-жа гэта ёсьць так.

Усім ведама, што у паветры ёсьць азот, які разам з дажджом прасочваецца ў зямлю і павялічвае ураджайнасьць. Сьнег гэтак сама мае дажджавую воду, толькі ў іншай форме. Яна мае у сабе азот, які можа прасачыцца да ральлі ці ўлятнуцца. Калі сьнег ляжыць на незаворанай глебе, дык увясну хутка тае. Калі-ж сьнег ляжыць на заворанай глебе, дык яна прыймае больш вады, сьнег тае паволі, зямля ляпей напаўняецца азотам і дае буйнейшы рост.

Гэткім чынам, васеньняя ворка прыносіць патрыйную карысьць.

У заворанай глебе скіба ад марозу рыхлее, зямля робіцца больш ураджайнаю ўвясну патрабуе менш працы.

## ДА ВЕДАМА ТРЫМАЦЕЛЯЎ Б. РАСЕЙСКІХ ЦЭННЫХ ПАПЕРАЎ.

Пасьля кастрычнікавага перавароту у Расеі, бальшавікі, як ведама, выдалі свой вядомы дэкрэт аб нацыяналізацыі усякай прыватнай маемасьці ўнутры Расеі і ануляваньні даўгоў усім загранічным дзяржавам і міжнародным капіталістым. Дэкрэт гэты выклікаў вялікае нездаваленьне сярод міжнародных капіталістых і на'т дробных трымацеляў расейскіх цэнных папераў, вартасьць якіх дасягае некалькіх мільярдаў руб. Гэты дэкрэт паслужыў галоўнаю прычынаю няпрызнаньня радавага ўраду большасьцю дзяржаваў.

У 1918 г. Урады Англіі і Францыі выступілі пераэ радавым урадам з нотаю пратэсту проці гэтага дэкрэту. Але гэтая нота ня была падтрымана іншымі вялікімі дзяржавамі і дзеля гэтага бальшавікі адказалі на гэтую ноту ў чыста бальшавіцкім духу. Гэткі-ж удзел спаткала і калектыўная нота радам цэнтральных дзяржаваў: Голяндыі, Даніі і Швэцыі. Наагул, усе паасобныя выступленьні дзяржаваў перад бальшавікамі па гэтаму пытаньню ня мелі дагэтуль ніякага пасьпеху. Аднак-жа ніводная з дзяржаваў да гэтае пары ня прызнала бальшавіцкага дэкрэту аб ануляваньні даўгоў, хаця і ня прыймалі ніякіх супольных рашучых крокаў проці бальшавікоў. І толькі ў вапошні мамэнт у Лёндане дагаварыўся міжнародны камітэт трымацеляў расейскіх цэнных папераў, да якога ўжо далучыліся капіталістыя Японіі, вядуцца перагаворы аб прылучэньні Амэрыкі і бязумоўна далучацца ўсе Эўропэйскія дзяржавы. Бальшавікі вельмі устрывожаны гэтым фактам, бо толькі капіталістыя могуць гутарыць з імі. Калі толькі бальшавікі ня прызнаюць сваіх даўгавых абавязкаў у адносінах загранічных крэдытараў, дык яны не атрымаюць нідзе пазыкі; толькі міжнародны капітал можа прымусіць да капітуляцыі бальшавікоў. Ужо пачынае павышацца курс на расейскія цэнныя паперы. Дзеля гэтага ўсе, у каго ёсьць расейскія цэнныя паперы, павінны трымаць іх і ня збываць за бясцэнак спэкулянтам, бо нязгублена яшчэ надзея калі-небудзь атрымаць за хі хаця і ня поўную належнасьць.

Рэдактар-выдавец Т. Т. ВЕРНІКОЎСКІ. Друкарня У. Знамяроўскага, Філярэцкая 12

Druk Szymanowicza Wilno, Zawalna 15